

# Купалінка

*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!* Я.Купала

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 01 (42) • СТУДЗЕНЬ 2014


# ОТРЕЗВЛЕНИЕ ОТ ПРАЗДНИКА

## РЕЗКО ПОДСКОЧИЛИ ТАРИФЫ НА ЖКХ-УСЛУГИ

**В праздничные дни 1 и 2 января 2014-го белорусы ещё не догадывались, что с начала года тарифы на некоторые коммунальные услуги уже подорожали. Ведь об этом народу сообщили лишь 3 числа, когда на Национальном правовом интернет-портале официально опубликовали постановление Совмина №1166, принятое 30 декабря 2013-го. Власти в очередной раз решили не портить людям праздник.**

Правда «сверху» заранее предупредили, что, согласно указу президента, тарифы ЖКХ теперь ежегодно будут повышать с 1 января, но не более чем на 5 долларов. А далее они будут подниматься поквартально и индексироваться в размерах, не превышающих фактически сложившегося индекса номинальной заработной платы по республике за предыдущий квартал. Фраза закрученная, но бухгалтеры, в отличие от простого обывателя должны разобраться. А обыватель всё поймёт, когда увидит цифры в жировке.

### ТЕПЛО, ЕЩЁ ТЕПЛЕЕ...

Итак, тариф на тепловую энергию для нужд отопления и горячего водоснабжения с 1 января вырос на 6,4% до 80 тыс. 570 руб. за 1 Гкал.

А 1 кубометр природного газа в жилых домах, а также в садовых домиках садоводческих товариществ, где установлены индивидуальные счётчики и имеются газовые отопительные приборы или водонагреватели, в отопительный период обойдётся в 520,9 руб., а в летний период – в 1 тыс. 906,6 руб. Если в квартире нет счётчиков, то независимо от сезона стоимость 1 кубометра также будет стоить 1 тыс. 906,6 руб. Рост тарифов составил 30%.

Если в квартире нет приборов индивидуального учета газа, но есть газовая плита и централизованное горячее водоснабжение (без газового нагревателя), стоимость газа будет взиматься с одного проживающего в месяц в 15 тыс. 250 руб. При наличии газовой плиты и газового водонагревателя и отсутствии централизованного горячего водоснабжения – 43 тыс. 850 руб. При наличии газовой плиты и отсутствии централизованного горячего водоснабжения и газового водонагревателя – 24 тыс. 800 руб..

### ГАЗ В БАЛЛОНАХ

Повышены на 30% цены и на сжиженный газ, используемый в жилых домах и квартирах. Так, стоимость 1 кубометра в домах со счётчиками при наличии индивидуальных газовых отопительных приборов и (или) газовых водонагревателей в отопительный период составит 8 тыс. 70,6 руб., в летний период – 5 тыс. 83,9 руб. При отсутствии счётчиков – также 5 тыс. 83,9 руб. в любое время года.

### ГОРИ ЛАМПОЧКА, ГОРИ...

Стоимость электроэнергии для населения подскочила на 20%. Так, в квартирах с электроплитами, по одноставочному тарифу, 1 кВт/ч теперь стоит 622,7 руб. В остальных случаях оплата взимается по одноставочному тарифу – 732,7 руб. за 1 кВт.ч.

### БРАТЬ ПО ПОЛНОЙ

Но особенно на себе почувствуют рост тарифов те, кому положено платить за ЖКХ услуги по полной стоимости. Тепловая энергия для отопления и горячего водоснабжения обойдётся им в 300 тыс. за 1 Гкал.

Цена 1 кубометра природного газа в квартирах со счётчиками составляет для них 2 тыс. 362 руб. Без счётчиков, но при наличии газовой плиты и централизованного горячего водоснабжения или индивидуального водонагревателя (за исключением газового), стоимость газа с человека в месяц – 18 тыс. 900 руб.

При наличии газовых плиты и водонагревателя (и отсутствии централизованного горячего водоснабжения) – 54 тыс. 350 руб.; при отсутствии централизованного горячего водоснабжения и газового водонагревателя – 30 тыс. 700 руб.

А за электроэнергию по одноставочному тарифу придётся платить 917,2 руб. за 1 кВт.ч.

К слову. С 1 января 2014-го Совмин утверждает только тарифы на тепловую, электрическую энергию и газ. Все остальные (в том числе цены на техническое обслуживание дома, водоснабжение, водоотведение, на пользование канализацией и лифтом) регулируют облисполкомы. В столице власти уже определились с новыми тарифами, так что и нам ждать недолго.

***Наталья АЛЕЙНИКОВА. «Брестский курьер»***







# ВУЛІЦА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

**Інтэлектуальная і "свядомая" частка грамадства Беларусі, як і ў 2013 так і ў новым 2014 годзе адзначае адну з найгалоўнейшых юбілейных датаў у гісторыі нашага краю – 150 гадавіну паўстання на былых землях Рэчы Паспалітай.**




У склад гэтага дзяржаўнага ўтварэння ўваходзіла і цяперашняя Беларусь. Гістарычная навука розных краінаў тое паўстанне называе па-рознаму. У беларускай гістарыяграфіі яго прынята называць "Паўстаннем 1863-1864 гадоў", альбо "Паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага".

Існуе шмат спрэчак як сярод навукоўцаў так і сярод грамадзян аб тым, ці з'яўляецца Каліноўскі беларускай постаццю, ці сапраўды ён дамагаўся незалежнасці Паўночна-Заходняга краю Расейскай Імперыі і наогул ці быў Каліноўскі героем?

Але зразумела адно: і ў артыкулах беларускіх адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя, і ў часы БССР і ў сучаснай незалежнай Беларусі асоба Каліноўскага ўшаноўвалася. У мастацтве, кіно альбо ў назвах геаграфічных аб'ектаў.

Але нягледзячы на гэта, напрыклад, колькасці месцаў ушанаваных імем таго ж Уладзіміра Леніна, Каліноўскі прайграе са значным адставаннем. У нашым горадзе, няма нават вуліцы названай у гонар героя.

Напрыканцы мінулага года маладыя людзі з Берасця вырашылі простым чынам узняць дыскусію аб Паўстанні 1863-1864 гадоў. Шэраг ініцыятываў праводзілі вандроўкі па мясцінах паўстання, ладзілі мерапрыемствы.

Апроч таго, адна з ініцыятыўных груп моладзі вырашыла прапанаваць Берасцейскаму гарвыканкаму надаць назву адной з новаўтвораных вуліц гораду імя Кастуся Каліноўскага.

У сувязі з будаўніцтвам новага транспартнага вузлу ў Берасці, т.зв. Заходняга абыходу, у горадзе паўстала новая вуліца. Гарвыканкам абвесціў збор прапаноў берасцейцаў наконт яе назвы. Мытнікі з размешчанага паблізу пагранпераходу «Варшаўскі мост», напрыклад, прапануюць назваць яе вуліцай Мытнай. А дакладней, «Таможнай». А моладзь прапанавала абраць у якасці назвы імя славутага паўстанца. І нават абвесціла збор подпісаў.

Матывацыя была простая: 175-я гадавіна з дня яго нараджэння, 150-я гадавіна з даты паўстання, маючыя адбыцца спартовыя і культурніцкія падзеі, дамінацыя ў назвах геаграфічных аб'ектаў імёнаў не беларускіх. Была праведзена кампанія "За вуліцу Каліноўскага ў Брэсце". Моладзь самаарганізавалася і ўласнымі намаганнямі прымусіла чытаць і аналізаваць значэнне асобы Каліноўскага, пакідаць подпісы за вуліцу і проста папулярызаваць імя героя.

Што з гэтага атрымалася, пакуль невядома, але




днямі маладыя людзі атрымалі адказ за подпісам намесніка старшыні берасцейскага гарвыканкаму, пра тое, што прапанова моладзі будзе разгледжана на пасяджэнні каардынацыйнага савета па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны ў першым квартале 2014 году.

То бок цягам 3 месяцаў. Якое рашэнне прыме ўлада, невядома, але грамадская ініцыятыва неабыякавых да сваёй гісторыі людзей прынамсі прымусіць цяперашнія эліты ва ўладзе задумацца над гэтым пытаннем і абмеркаваць яго.

А моладзь працягне святкаваць 150 угодкі паўстання, якое сталася крокам да незалежнасці той краіны, у якой мы зараз жывем.

***Ігнат Вітажэнец***

БРЭСЦКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

вул. Энгельса, 3, 224005, г. Брэст, 5
тэл. (8-0162) 23 98 38, факс (8-0162) 23 70 64
e-mail: ispolkombrest@Brest.by
р/р 3604000002568 у філіяле 100
БАУ ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Брэста
УНП 200020300, МФА 246

БРЕСТСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

ул. Энгельса, 3, 224005, г. Брест, 5
тел. (8-0162) 23 98 38, факс (8-0162) 23 70 64
e-mail: ispolkombrest@Brest.by
р/с 3604000002568 в филиале 100
БОУ ОАО «АСБ Беларусбанк» г. Бреста
УНП 200020300, МФО 246

03.01.2014 № 35-1/1166

На № ________ от ________

Скрабутан Я.
вул. Шасэйная, 17А/40
г. Зэльва Гродзенская вобласць, 231940

Аб звароте

Паважаны Яўген!

Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт на зварот з прапановай аб наданні вуліцы ў г. Брэсце назвы імя Кастуся Каліноўскага паведамляе, што Ваша прапанова будзе разгледжана на пасяджэнні каардынацыйнага савета гарвыканкама па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны ў першым квартале 2014 г.

Аб прынятым рашэнні Вы будзеце паведамлены дадаткова.

Намеснік старшыні
гарвыканкама

Г.І. Барысюк

# АДЧУЙ МОЦ КАРАНЁЎ!

**У Брэсце рэалізуецца ўнікальны адукацыйна-культурны праект "Бацькі. BY". І распавядзе нам пра яго каардынатар праекту, кіраўнік і удзельнік Вольга Крусь, якая пражывае ў нашым мікрараёне, але дбае не толькі пра яго, а за ўсю краіну!**

Педагогіка як навука налічвае тысячы год. І было б прынамсі дзівацтвам адмаўляцца ад яе старажытных дасягненняў нават сёння, калі, здавалася б, усё магчымае ўжо прыдумана. Менавіта гэтым прынцыпам – уключэння практык народнай педагогікі – кіруецца ў сваёй дзейнасці цікавы брэсцкі праект "Бацькі.BY".

- Што цікава, "Бацькі.BY" нарадзіліся з маёй магістарскай працы, калі я вучылася ў Брэсцкім універсітэце імя Пушкіна, - расказвае Вольга. – У ёй я разглядала практыкі беларускай народнай педагогікі і прыйшла да высновы, што нашыя продкі не падзялялі працэсы выхавання, развіцця і навучання. Усе яны зліліся ў адным працэсе, які складваўся з мовы, прыроды, фальклору і рэлігіі.

Менавіта на гэтых чатырох стаўпах "Бацькі.BY" і спрабуюць сёння аднавіць народную традыцыю выхавання дзетак. А недахоп яго, паводле слоў Вольгі, добра адчуваецца. Як толькі малады педагог пачала працу ва ўніверсітэце, яна заўважыла: моладзь не толькі не практыкуе нацыянальныя традыцыі, але і папросту не ведае іх. У той час як менавіта яны – той падмурак, без якога немагчыма існаванне этнасу.

- У нашай мове, фальклоры і з'яднаных з рэлігійнымі святамі традыцыях хаваецца тое, што ў навуцы называецца этнакультурным базісам, - тлумачыць Вольга. – І вельмі прыкра, што гэтая наша адметнасць і, можна нават сказаць, брэнд з часам губляюцца.

Зрэшты, сцвярджае Вольга, нават этнакультурны базіс без сям'і – нішто.

- Шмат хто гаворыць, што нацыя памрэ без мовы, - адзначае яна. - Але я больш упэўненая, што смерць яе пачынаецца з занядбання інстытуту сям'і. Бо толькі ў ёй дзіця вучыцца размаўляць і пераймаць традыцыі. А на якой мове гэта адбываецца – рэч другасная. Таму для ўдзельнікаў "Бацькоў" веданне беларускай мовы неабавязковае. Некаторым здаецца, што сітуацыя з нашай мовай катастрафічная, а я не бачу нічога страшнага. Гэта наш шлях, і мы павінны яго прайсці. А калі ён непадобны да іншых, то што ж... Гэта нашая адметная дарога!




Увогуле, Вольга з астатнімі арганізатарамі праекту стараецца больш укладваць сэнс ва ўсе мерапрыемствы, чым следаваць заданай традыцыяй форме. Тым больш што не заўсёды яны звязаныя з фальклорам.

Летась "Бацькі.BY" ладзілі ў асноўным трэнінгі на самыя розныя тэмы "Я жыву ў Беларусі", "Я – частка роду", "Народныя святы" і шмат іншых.

Сёлета арганізатары вырашылі падысці да праекту крыху інакш. Для тых, хто на працягу мінулага году наведваў заняткі, быў праведзены адмысловы двухдзённы трэнінг, пасля якога былыя "навучэнцы" самі ставаліся "выкладчыкамі". Вольга тлумачыць гэта жаданнем глыбей "пусціць карані", каб тыя, хто валодае ведамі, маглі перадаваць іх у свае сем'і, калектывы і атачэнне.

Але адукацыйнымі мерапрыемствамі "Бацькі.BY" не абмяжоўваюцца. Праект – гэта таксама канцэрты, вандроўкі па знакамітых беларускіх мясцінах, адзначэнне народных святаў з правядзеннем старажытных абрадаў.

- Дарэчы, мы займаемся не рэканструкцыяй абрадаў, - падкрэслівае Вольга, - а стараемся ўкласці ў іх менавіта той сэнс і інтэлектуальную насычанасць, якія былі закладзеныя ў старажытнасці. Таму на святы прыходзяць людзі ў красоўках, а ў вышыванках і строях толькі тыя, хто іх мае і каму так зручней. Вонкавы бок не так важны, як можа падацца. Куды больш важна, каб чалавек разумеў, навошта ён прыходзіць і ўдзельнічаў у свяце, а не назіраў за тэатральнай пастаноўкай.

Вольга ў сваёй дзейнасці кіруецца адным важным прынцыпам, які выказаў выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэту і аўтар кнігі "Палеская народная педагогіка" Сафроній Жлоба: "Уявіце сабе хату з саламянай страхой. Салома спарахнела, яе накрылі шыферам. Шыфер стаўся непрыдатны, яго замянілі на чарапіцу. Але дах – гэта толькі дах. Важнейшае тое, што адбываецца ўсярэдзіне хаты". Менавіта адсюль гэтае дбанне аб змесце, а не аб прыгожай форме.

Да ініцыятывы Вольгі і яе сяброў з разуменнем ставяцца і ва ўніверсітэце, дзе яна працуе. Арганізатар "Бацькоў" адзначае, што ўстанова заўсёды ідзе насустрач, калі гаворка ідзе аб памяшканні для імпрэзаў, апаратуры ці вандроўках.

- Асабліва хачу адзначыць метадычную дапамогу педагогаў майго ўніверсітэту, - гаворыць Вольга. – Дзякуючы ёй у "Бацькоў" нараджаюцца новыя формы ўзаемадзеяння і адукацыі.

Прыкладам "Бацькоў" натхняюцца не толькі брэстаўчане і Брэстчына. Паводле слоў Вольгі, хутка падобны праект з'явіцца ў Маладзечна. А ў перспектыве – у іншых буйных беларускіх гарадах.

- Не трэба рабіць з беларускасці "свяшчэнную карову". Яна павінна стаць мэйнстрымам, - гаворыць Вольга. - І нават, не пабаюся гэтага слова, папсой. І падставы для гэтага ёсць, бо 90 працэнтаў удзельнікаў – студэнцкая моладзь. А для каго, як не для маладых, важна звяртацца да каранёў, каб жывіцца моцай продкаў, каб перадаць яе наступным пакаленням?



***Арцём Кір'янаў, Гендзель Таццяна***




## ЗА НАШИ ПРАВА!

# МАЯ ДАРОГА НА ЕЎРАМАЙДАН

**Еўрамайдан у Кіеве для беларусаў сапраўды стаўся ўжо трэндавым месцам. Дзеячы ад палітыкі і грамадзянскай супольнасці, мастацтва і музыкі палічылі за гонар наведаць і пабачыць на ўласныя вочы, рэвалюцыйныя будні сталіцы Украіны.**



Асабіста я, прыняў рашэнне адправіцца туды кіруючыся хутчэй не логікай, а эмоцыямі. Прычынай стаўся прагляд жывой трансляцыі разгону сілавікамі горсткі студэнтаў і мільённыя акцыі пратэстаў, з штурмам адміністрацыі Прэзідэнта Украіны і захопам шэрагу будынкаў вакол плошчы Незалежнасці.

Як высветлілася, у тую самую ноч разгону, якая сталася каталізатарам таго, што зараз адбываецца ва Украіне, на плошчы прысутнічаў і наш зямляк – берасцеец Іван Стасюк. На кадрах было заўважна, як лунае бел-чырвона-белы сцяг. Мо гэта быў ягоны? Аформіўшы камандзіроўку, збіраю рэчы, ўдакладняю свой маршрут і выяжджаю…

**ЧАСТКА ПЕРШАЯ.**

Першы прыпынак – Луцк. Ноч. Моладзь з мясцовай ініцыятывы сустракае і паказвае намётавае мястэчка. Да генератару падлучана цеплавая пушка, вакол гараць вогнішчы ў бочках, дзяжурыць ахова. Прысутнічаюць нават два міліцыянты, выдзеленыя, па словах арганізатараў луцкага "Еўрамайдану", адмыслова для беспекі пратэстоўцаў. З ранішніх ужо гутарак даведваюся, што ў асноўным мэта "рэгіянальных" "Еўрамайданаў" – гэта інфармаванне насельніцтва пра перспектывы пагадненняў аб асацыяцыі з ЕС ды адпраўка валанцёраў у Кіеў. Менавіта ў Кіеве і вырашаюцца асноўныя пытанні.

Бліжэй да дзевяці раніцы паступова падцягваюцца людзі, збольшага свядома, хаця хапае і мінакоў, аматараў дармовай гарбаты і канцэртаў, што стараюцца ладзіць штодзённа. Самая актыўная частка – валанцёры грамадска-палітычных арганізацыяў і студэнты – пастаянна ладзіць акцыі пратэстаў, салідарнасці з кіеўскім "Еўрамайданам" і пікетуюць будынкі дзяржустановаў. Кардынальнага плёну, праўда гэта не нясе.

Абласная Рада, у складзе якой большасць месцаў належыць праўладным абраннікам, усяляк не прапускае прапановы дэпутатаў ад апазіцыі. На што тыя адказваюць усё новымі акцыямі пратэсту. "Зусім іншая сітуацыя ў Львове", – кажа адна з актывістак луцкага "Майдану". Тамтэйшыя жыхары абвясцілі агульнаабласны страйк, што больш уплывова чым акцыі. Украінскае грамадства і ўлада даўно ўжо да іх прызвычаіліся і маюць пэўны ўзаемны імунітэт…

Кіеў. Сталіцу Украіны ўбачыў а шостай ранку. Аднекуль здалёк даносіліся гукі ці то музыкі, ці то прамовы. Кіруючыся на гэтыя гукі ўрэшце трапляеш на вялікі пляц, дзе бачыш некалькі дзесяткаў вялізных намётаў з прымацаванымі сцягамі на любы колер і густ. Гэта – "Майдан".

"Майдан", натуральна адразу робіць уражанне. Лічы ноч, толькі шостая раніцы, а са сцэны нехта прамаўляе, нехта падбадзёрвае ды спявае. Вакол намётавага мястэчка – барыкады. На іх звяртаеш увагу не адразу. Самае відовішчнае – сцэна. Яна месціцца наўпрост пасярэдзіне плошчы Незалежнасці. Ужо зрання бачу студэнтаў, якія рыхтуюцца да чарговага шэсця ў падтрымку затрыманых. Паўсюдна бачна людзей у касках, карысная рэч для мінімалізацыі траўмаў у выпадках сутычак з сілавікамі.

Ля прылеглых будынкаў ідзе раздача ежы, гарбаты, вопраткі і сродкаў гігіены. Некаторыя пратэстоўцы знаходзяцца тут ужо некалькі тыдняў. У будынку Кіеўскай гарадской адміністрацыі (Кіеўрады) месціцца штаб рэвалюцыі. Трапіць туды можна толькі цьвярозым, праз самаахову "Еўрамайдану". На першым паверсе стаяць барыкады на выпадак штурму, на другім арганізаваныя месцы для начлегу, медыцынскі пункт, пункт гігіены і тая ж самая раздача ежы. Шмат хто наракае на тое, што "Еўрамайдан" з-за сваёй статычнасці паступова можа пераўтварыцца ў начлежку для бяздомных.

У будынку Прафсаюзаў, што прылягае да плошчы Незалежнасці, знаходзіцца прэс-цэнтр. У ім журналісты атрымліваюць акрэдытацыю, праходзяць прэс-канферэнцыі палітыкаў, ёсць Wi-Fi. Журналістаў шмат, з усіх куткоў свету.

**ЧАСТКА ДРУГАЯ.**

Украінцы – народ ветлівы, калі ж да таго ты прыехаў падтрымаць "Еўрамайдан", то заўжды знойдзеш месца дзе пераначыць, прыняць душ і знайсці новых сяброў. Беларусаў яны вельмі любяць. А іх у сваю чаргу на "Майдане" вельмі шмат. Лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі, прамаўляюць са сцэны дзеячы розных арганізацый Беларусі.

Я трапіў туды акурат у той час, калі Сяргей Міхалок і гурт Ляпис Трубецкой выступілі з канцэртам ды выказалі словы падтрымкі. Кіеўляне нават вывесілі бел-чырвона-белы сцяг на шпіле аднаго з прылеглых да плошчы Незалежнасці будынкаў падчас выступу гурту. "Check-in" у Кіеве і фота ў "Instagram" стаўся сапраўды трэндам.

Апроч пастаянных канцэртаў і акцыяў, да "Еўрамайдану" перыядычна падыходзяць гэтак званыя "цітушкі", асобы ў цывільным, альбо найміты-правакатары. Адкрытых сутычак, як на акцыях апазіцыі ў Беларусі, не назіраецца. Ахова намагаецца як мага хутчэй іх вылічыць і выправадзіць за межы намётавага мястэчка. Але "весяліцца" не толькі ўлада. Па начох у калоны збіраюцца экіпіраваныя ў каскі хлопцы і шпацыруюць па Кіеве ў кірунку будынкаў, у ахове якіх знаходзяцца мясцовыя сілавікі ("Беркут"). Задача – не засумаваць ноччу і падтрымаць баявы настрой)))

Сітуацыя ва Украіне адрозніваецца ад беларускай хаця б тым, што мясцовы бізнэс без перашкодаў можа абраць "той ці іншы бок барыкадаў". Напрыклад, сетка рэстаранаў сушы ў ваколіцах плошчы Незалежнасці бясплатна раздае вайфай, дазваляе карыстацца разеткамі і частуе гарбатай альбо кавай.

P.S.: Дапісваючы артыкул даведаўся, што Вярхоўная Рада прыняла шэраг законаў, у змесце якіх прасочваюцца прыкметы канстытуцыйнага перавароту. Шэраг апазіцыйных палітыкаў заклікалі да мабілізацыі ўсіх прыхільнікаў рэвалюцыі.

***Ігнат Вітажэнец***


**Купалінка**

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік** – Суполка "Усход-2" гарадской арганізацыі Партыі БНФ
• Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранага карыстання
• **Падпісана ў друк** 23.01.2014 года ў 12-00
• Папера афсетная, 0,5 ул.-друк. аркуша, фармат А4. Гарнітура Myriad
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
• **Наклад:** 299 асобнікаў
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Галоўны рэдактар:** Уладзімір ТАРНОЎСКІ
• **Рэдакцыйная калегія:** Кірыл КАТОВІЧ, Наста ПАПЯЛОЎСКАЯ, Ульяна ВЕНЦЕЛЬ
• **Кантактны тэлефон: (029) 222-58-22, (029) 660-57-41**
• **E-mail:** kupalinka_bnf@tut.by